**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 40 (808) 1 кастрычніка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**У нядзелю ў Глыбокім адбыўся традыцыйны для гэтага часу восенькі кірмаш. Залева! І ўсё ж, пакупнікоў было не так ужо і мала. Не спалохаліся! Тым больш, выбар садавіны і гародніны быў вялікі. Каб народ не зважаў на макроту – радавалі сваімі выступамі самадзейныя артысты.** *Фота Леаніда Юрыка.*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



## 24 верасня ў Беларусі пабіты тэмпературны рэкорд дня 70-гадовай даўніны

**Тэмпературны рэкорд дня 70-гадовай даўніны пабіты ў Беларусі 24 верасня.**

У Гомелі паветра прагрэлася да 29,2 градуса цяпла. Ранейшы рэкорд – 27,8 градуса – быў зафіксаваны ў Жыткавічах 24 верасня 1945 года. У самім абласным цэнтры абсалютны максімум дня складаў 24,4 градуса. Такая тэмпература была зарэгістраваная таксама 70 гадоў таму.

Паў рэкорд дня і ў Мінску. Тут слупок тэрмометра падняўся да адзнакі плюс 25,9, на 1,9 градуса перавысіўшы рэкордны паказчык усё таго ж 24 верасня 1945 года.

Абнавіліся рэкорды дня ў Магілёве – 25 градусаў (было 22,2 градуса ў 1989 годзе), Віцебску — 27 (22 у 2006 годзе) і Гродне – 25,4 (24,4 у 1965 годзе). У Брэсце рэкорд паўтораны – 25,3 градуса (у 1945 годзе).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*



## Беларусь далучаецца да Канвенцыі аб правах інвалідаў

Беларусь далучаецца да Канвенцыі аб правах інвалідаў. Указ ад 24 верасня 2015 года нумар 401 "Аб падпісанні Рэспублікай Беларусь Канвенцыі аб правах інвалідаў" апублікаваны 26 верасня на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА.

Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

Канвенцыя аб правах інвалідаў прынята Генеральнай асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку 13 снежня 2006 года, уступіла ў сілу 3 мая 2008 года.

Канвенцыя накіравана на забеспячэнне поўнага ўдзелу інвалідаў у грамадзянскім, палітычным, эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці грамадства (сацыяльную інтэграцыю), ліквідацыю дыскрымінацыі па прыкмеце інваліднасці, абарону інвалідаў і ажыццяўленне імі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама на стварэнне эфектыўных прававых механізмаў забеспячэння гэтых правоў.

БелТА.





### Віцебская вобласць

## Кіраўнік – рызыкоўная прафесія

■ Станіслаў Раманчук.

**У сучаснай Беларусі быць кіраўніком рознага ўзроўню – няўдзячная справа з-за павышаных нагрузак на працы і пастаянных стрэсаў.**

Таму і зыходзяць яны раптоўна з жыцця, як гэта адбылося са старшынёй Віцебскага абласвета дэпутатаў Аляксандрам Ацясавым. Яшчэ нядаўна яго калегі бачылі даволі энергічным у спартыўнай форме на першай спартакіядзе работнікаў органаў дзяржкіравання ў складзе каманды аблвыканкама і раптам на 62-м годзе жыцця спынілася сэрца. Карэнны віцьблянін пасля службы ў арміі скончыў дома тэхналагічны інстытут, працаваў на панчошнатрыкатажным камбінаце КІМ, потым у савецкіх і партыйных органах. На працягу апошніх 15 гадоў ён плённа кіраваў дэпутацкім абласным корпусам, быў простым і адкрытым чалавекам, уважлівым да людзей. Яго пахавалі на вясковых могілках побач з бацькамі, а на цырымонію развітання прыехалі дэлегацыі з усіх куткоў вобласці і рэгіёнаў краіны, а таксама калегі з трох расійскіх абласцей. Перад гэтым калектыў мясцовага Віцебскаблгідрамета страціў свайго 51-гадовага кіраўніка Віктара Казлоўскага. Яго вельмі любілі і паважалі спецыялісты на метэастанцыях вобласці за кампетэнтнасць, прафесіяналізм і чуласць, а памёр ён трагічна падчас няшчаснага выпадку на паляванні. Са смуткам у калектыве "Віцебскаблаўтадора" даведаліся аб раптоўнай смерці падчас выезду на адзін з аб'ектаў на 57-м годзе жыцця аднаго з лепшых кіраўнікоў Генадзя Татарчука, які на працягу 15 апошніх гадоў узначальваў Пастаўскае ДЭУ-33.

### Пастаўскі раён

## Намеры на паперы

■ Чэслаў Якубовіч.

**Якіх толькі светлых перспектыў не абяцалі палітыкі народу перад папярэднімі выбарамі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне неўзабаве пасля завяршэння IV Усебеларускага народнага сходу пабываў з рабочай паездкай тагачасны глава вобласці А. Косінец, сустрэўся з актывам і выбаршчыкамі ў РДК. У адпаведнасці з пратаколам даручэнняў гараджанам і мясцовым жыхарам таксама паабяцалі шчаслівую будучыню, але мала што з гучных заяў атрымалася. Як туман развеяліся абяцанні дасягнуць сёлета ўзроўню зарплаты ў 1000 долараў у эквіваленце. Дагэтуль не пачалося будаўніцтва новай гарадской лазні замест аварыйнай, хоць мыцца і парыцца пастаўчане павінны былі ўжо ў ёй 3 гады назад. На той сустрэчы многія скептычна аднесліся да заяў былога кіраўніка Прыдзвіння, цяпер главы прэзідэнцкай Адміністрацыі, што ў раёне пабудуюць у гэтай пяцігодцы завод па выпуску бутыліраванай мінеральнай і пітной вады, птушкафабрыку, цэх па перапрацоўцы рыбы ў райцэнтры і біягазавую ўстаноўку ў Камаях. Мыльнай бурбалкай сталі планы па ўзвядзенню пяці буйных жывёлагадоўчых комплексаў і новага корпуса райбальніцы. Напэўна, цяпер ніколі з-за крызісу не з'явіцца ў горадзе сучасны плавальны басейн і Лядовы палац, а абяцалі гэта зрабіць у 2011-2014 гадах. Многіх жыхароў краю абурае, што дагэтуль не адкрылася 50-кіламетровая зона спрошчанага наведвання Літвы, бо абяцаў яе адкрыццё А. Косінец яшчэ пару гадоў назад. Адзінае, што газаправод па просьбе выбаршчыкаў быў прадоўжаны да гарпасёлка Лынтупы, аднак мясцовы спіртзавод там ужо закрылі, і буйное мястэчка цяпер перажывае, бадай, самыя змрочныя часы ў сваёй пяцісотгадовай гісторыі.

### Полацкі раён

## Багатыя дары лесу

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе ў аматараў прыроды і актыўнага адпачынку былі вялікія апасенні, што з-за моцнай спёкі ў лясных масівах не будзе добрага ўраджаю ягад і грыбоў.**

Аднак, прайшоўшыя ў рэгіёне дажджы разам са спрыяльным надвор'ем дапамагаюць людзям стварыць запасы дароў лесу на прадстаячую зіму. У гэтым пераканаліся днямі і ўдзельнікі чарговага грыбнога чэмпіянату, які прайшоў у Полацкім раёне ў шосты раз. Папулярнае мерапрыемства экалагічнага фестывалю на Полаччыне прайшло ўпершыню ў новым фармаце падчас Адкрытых дзён еўрапейскага супрацоўніцтва. На наступны раз сюды могуць прыехаць каманды спрактыкаваных грыбнікоў з суседніх Латвіі і Літвы. Сёлета ж мясцовых прыхільнікаў "ціхага палявання" прынялі нават 11 лясных масіваў раёна і пляцовак, дзе праходзілі розныя мерапрыемствы, звязаныя з грыбной справай і прыродай. Спрыяла добраму настрою ўдзельнікаў выдатнае надвор'е і таму на лясныя сцежкі і прывабныя месцы ў 8 гадзін раніцы выйшла больш двухсот каманд па тры чалавекі ў кожнай. Неўзабаве журы чэмпіянату падвяло вынікі і аб'явіла, што за тры гадзіны спаборніцтваў іх удзельнікі сабралі разам адну тону 300 кг ядомых грыбоў. Найлепш выступіла каманда "Полацкгаза", якая сабрала найбольш усіх, роўна 120 кг грыбоў і была лепшай. Мясцовы брэнд, чараўнік Лясун уручыў таксама ўзнагароду бібліятэкару Людміле Пашкевіч з аграгарадка Заазер'е, якая знайшла самы вялікі і прыгожы баравік вагой амаль 2 кг. Такіх грыбоў-гігантаў дагэтуль ніхто з грыбнікоў тут не прыносіў дамоў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 01.10.15 | | | | Пятніца 02.10.15 | | | | Субота 03.10.15 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +8 | +12 | +9 | +11 | +9 | +13 | +8 | +10 | +11 | +15 | +7 |
| Ціск | 758 | 758 | 756 | 754 | 752 | 752 | 750 | 748 | 747 | 750 | 751 | 752 |
| Вецер м/сек | 4 З | 5 З | 5 З | 6 З | 6 З | 6 З | 8 З | 8 З | 7 З | 4 З | 3 С-З | 1 З |
| Вільготнасць | 90 | 92 | 88 | 91 | 88 | 94 | 79 | 83 | 89 | 95 | 73 | 98 |

| | Нядзеля 04.10.15 | | | | Пан. 05.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +10 | +14 | +8 | +10 | +10 | +16 |
| Ціск | 753 | 754 | 752 | 751 | 750 | 750 | 749 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 2 Ю | 5 Ю | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 3 Ю-В | 4 Ю-В |
| Вільготнасць | 96 | 99 | 71 | 88 | 91 | 95 | 72 |

# Аб самым надзённым

## ТОЛЬКІ ДАДАТКОВЫЯ СУР'ЁЗНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ПРЫНЯСЕ БЕЛАРУСІ РАЗМЯШЧЭННЕ Ў НАС НОВАЙ РАСІЙСКАЙ ВАЕННАЙ АВІЯБАЗЫ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Месца яе дыслакацыі не называецца, але ходзяць размовы, што рускія ваенныя самалёты сядуць, хутчэй усяго, пад Бабруйскам. Дзе толькі можа, Крэмль стараецца размясціць свае ваенныя базы, пачынаючы ад Прыднястроўя ў Малдове і заканчваючы гарамі Арменіі, Кіргізіі і Таджыкістана.**

Апошнім часам мяне, шчыра кажучы, моцна здзіўляе імкненне цяперашняга аўтарытарнага гаспадара Крамля адрадзіць з гістарычнага небыцця новы міні-СССР. Пуцін за 15 гадоў на чале вялізнай дзяржавы так і не здолеў пабудаваць на расійскіх прасторах сучасную квітнеючую эканоміку. Аднак, гэта не перашкодзіла, па ацэнках заходніх палітолагаў, самаму цынічнаму палітыку свету ўнесці днямі ў падкантрольную Дзяржduму прапанову-законапраект аб адмове ад долара ва ўзаемных разліках паміж постсавецкімі дзяржавамі СНД. Як плануецца, на першым этапе беларусы з казахамі створаць агульны фінансавы рынак, а далей да яго могуць далучыцца яшчэ армяне і кіргізы.

Цікава толькі, чаму гэта за нас расійскія прапуцінскія дэпутаты будуць рашаць, ці выгадна Беларусі адмовіцца ад цвёрдай валюты і мець у якасці плацёжнага сродку прыкметна аслабеўшы рубель рускі. У самой жа Расіі зараз ужо пачаўся ( як заявілі на пасяджэнні ўрада Д. Мядзведзева) відавочны бюджэтны крызіс на фоне замежных санкцый і растучай ізаляцыі ў цывілізаваным свеце за яе рэваншысцкую, імперскую палітыку. Аднак, такому кроку няма чаго здзіўляцца, бо Крэмль глядзіць на сваіх партнёраў заўсёды пагардліва, з імі асабліва не лічыцца. У гэтым рэчышчы цяпер таксама напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў вытрымана яшчэ адна псіхалагічная атака на беларускае кіраўніцтва.

Звычайна ў свеце аб важных дамоўленасцях у ваеннай сферы шырока не паведамляюць і не афішуюць. На справе, Пуцін, верагодна, лічыць нашу краіну дзяржавай-сатэлітам, бо СМІ паведамілі, як на подпіс яму паклалі праект гатовага пагаднення паміж Расіяй і Беларуссю аб размяшчэнні на нашай зямлі на 15 гадоў расійскай ваеннай авіябазы. Дагэтуль, нагадаем, у нашай краіне меліся два важныя стратэгічныя ваенныя аб'екты суседзяў: цэнтр сувязі з падводнымі лодкамі РФ пад Вілейкай і магутная радыёлакацыйная станцыя ля Ганцавіч. Гэтага рускім аказалася мала, яны цяпер падчас пачатай халоднай вайны з ненавісным Захадам хочуць размясціць у нас яшчэ і сваю ўдарную авіяцыю.

Месца яе дыслакацыі не называецца, але ходзяць размовы, што рускія ваенныя самалёты сядуць, хутчэй усяго, пад Бабруйскам. Дзе толькі можа, Крэмль стараецца размясціць свае ваенныя базы, пачынаючы ад Прыднястроўя ў Малдове і заканчваючы гарамі Арменіі, Кіргізіі і Таджыкістана. У Крыме таксама было шмат рускіх ваенных і маракоў, што і дазволіла Пуціну нахабна, з дапамогай "зялёных чалавечкаў", правесці анексію паўвострава на гітлераўскі манер, сур'ёзна абвастрыць абстаноўку ў свеце.

Як вядома, наша краіна раней прасіла ў Расіі дапамагчы нам правесці мадэрнізацыю сваёй ваеннай авіяцыі і абавязалася абараняць паветраную прастору свайго бліжэйшага саюзніка па АДКБ. Але замест гэтага беларусы атрымаюць у бліжэйшы час толькі рускі авіяполк, які, дарэчы, нічога не будзе плаціць у наш дзяржаўны бюджэт і вызваляецца (якое нахабства) таксама ад платы за зямлю, за электрычнасць і, нават, за камунальныя паслугі. Замест гэтага міждзяржаўным пагадненнем прадугледжана, што Беларусь атрымае іншыя льготы і прэферэнцыі, прапісаныя ў іншых дакументах.

Айчынных ваенных экспертаў насцярожыла, што рускія ваенныя з каравула авіябазы маюць права прымяняць зброю пры выкананні баявых задач і па-за межамі тэрыторыі авіябазы. Гэта азначае, што тэарэтычна асобны расійскі салдат можа напіцца і пачне страляць не толькі сваіх саслужыўцаў, але і па людзях, як гэта адбылося паблізу 102-й ваеннай базы РФ у армянскім горадзе Гюмры. Праўда, супакойвае, што гэта руская часць будзе ў падпарадкаванні непасрэдна камандуючага беларускай авіяцыі і войскамі супрацьпаветранай абароны, і без яго дазволу ніводны самалёт Су-27 СМЗ у наша неба не падніметца.

Зараз відавочна адно, што цяперашняму ўладару Крамля прыйшла пара спыніцца, глыбока задумацца, як скончыць вайну на Данбасе, бо інакш не выйдзе Расія з сур'ёзнага крызіса. Становішча спраў у беларускай эканоміцы таксама не змяніцца, пакуль не наладзяцца справы ў нашых суседзяў. Пакуль жа з пачатку года за 7 месяцаў ВУП Беларусі знізіўся на 4 %, чаго раней не назіралася. Як паказвае практыка, што калі Беларусь не атрымае ад Расіі ад згоды за размяшчэнне гэтай авіябазы сур'ёзных эканамічных дывідэнтаў і прэферэнцый, то яна можа пакінуць і гэта пытанне ў падвешаным стане. З іншага боку, можа перавесіць важны заходнееўрапейскі напрамак, бо наша краіна зацікаўлена ў паляпшэнні адносін з Захадам, у новых рынках збыту. На нас нападаць ніхто не збіраецца, а нейтральны статус міратворца ў сітуацыі ва Украіне толькі павышае аўтарытэт беларусаў і іх кіраўніцтва ў свеце, не будзем пра гэта забываць.

## Дзень за днём

**Эксперты ўрада чакаюць сёлета падзенне ВУП Беларусі на 2,8%. Нават перад выбарамі ў 432 прадпрыемствах зноў не знайшлося сродкаў на зарплату амаль 70 тысячам працаўнікам. Людзі бяднеюць і пачалі большасць грошай (2,7 мільёна на сям'ю) траціць на прадукты харчавання. Валютная выручка Беларусі знізілася ўжо на 6 мільярдаў долараў. Рэзка на 43% вырас попыт на валюту, беларусы ў жніўні купілі 699 мільёнаў долараў. А. Лукашэнка запрасіў насельніцтва разам з пагранічнікамі ахоўваць дзяржаўную граніцу.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Урад краіны патраціў на падтрымку нацвалюты юаня 236 млрд. USD, але толькі моцна абваліў свой фондавы рынак і кошт акцый вядучых кітайскіх кампаній.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама адмовіўся ад сустрэчы з Пуціным на Генасамблеі ААН пасля таго, як вядучы тэлеканала "Расія 1" Д. Кісялёў абразіў амерыканскага лідара.

**Аўстрыя.** За некалькі гадзін больш 4 тысяч уцекачоў з Сірыі і Афрыкі на аўтобусах прыехалі ў краіну з Венгрыі, паток мігрантаў расце па ўсёй Еўропе, асабліва ў Германіі.

**Літва.** Генсек НАТО Й. Столтэнберг адкрыў у Вільнюсе разам з прэзідэнтам Даляй Грыбаўскайтэ адзін з шасці новых камандных пунктаў на Усходняй Еўропе.

**Расія.** Супраць РФ, як паведаміла газета "Коммерсантъ", ЕС і ЗША могуць увесці новыя санкцыі, калі ўлады псеўдарэспублік Данбаса адмовяцца ад выбараў па законах Украіны.

**Сьера-Леоне.** Пасля выяўлення зноў віруса Эболы тысячы жыхароў краіны перавялі на строгі каранцін, ад страшнай хваробы загінула ўжо больш 11 тысяч афрыканцаў.

**Японія.** Яшчэ адзін сусветны аўтагігант Honda расчараваўся ў расійскім рынку, з Новага 2016 года пастаўкі рускім японскіх аўто будуць толькі па папярэднай аплаце ад кліентаў.

**Кітай.** Кампанія Hawtai дамовілася аб будаўніцтве новага аўтазавода грузавікоў КАМАЗ і аб выпуску кітайскіх легкавых аўтамабіляў на заводзе КАМАЗа ў Набярежных Чалнах.

**Казахстан.** За парушэнні, нібыта заканадаўства, эканамічны суд Алма-Аты ліквідаваў апазіцыйную Камуністычную партыю краіны, яе дзейнасць прыпынялі 4 разы.

**Таджыкістан.** У ходзе ўзброенага мяцежа, узнятага звольненым намеснікам міністра абароны генералам А. Назарзадам, забілі 33 вайскоўцаў, верных прэзідэнту Рахмону.

**Украіна.** Разборкі паміж главарамі баевікоў "ДНР" прывялі да адстаўкі і арышту главы "парламента" А. Пургіна за "дэструктыўную дзейнасць", ён вёў перамовы ў Мінску.

**Англія.** Еўрапейскі банк пазбавіў тэлеканал Russia Today выручкі ад рэкламы, бо гэты канал кантраліруе ястраб журналістыкі Крамля Д. Кісялёў, які трапіў пад санкцыі ЕС.

**Расія.** Былы амерыканскі агент АНБ Э. Сноўдэн заявіў аб планах канчаткова пакінуць РФ, раскрытыкаваў існуючыя тут парадкі і, асабліва, абмежаванні свабоды думак грамадзян.

**Францыя.** Ганаровы камунар Бельгіі, 66-гадовы скандальны акцёр Ж. Дэпард'е заявіў, што прадасць усю сваю маёмасць і з Італіі перабярэцца жыць да "мужыкоў" у Беларусь.

**Расія.** На расійскіх прасторах, як заявіў народны артыст РФ Раман Карцаў, справы вельмі кепскія, галеча, адчай, а ідыёты прыдумалі знішчаць ежу, стала проста страшна жыць.

## У кастрычніку пачынаецца рэпетыцыйнае тэставанне



■ TUT.BY

**Рэспубліканскіінстытут кантролю ведаў пачынае сезон рэпетыцыйных тэставанняў. Першы этап стартуе ўжо ў кастрычніку і працягнецца да снежня. РІКВ анансаваў і новаўвядзенне гэтага года: пасля праверкі адказаў абітурыентам для працы над памылкамі будуць падавацца рашэнні заданняў і іх аналіз.**

Да пачатку ўступнай кампаніі абітурыенты змогуць тройчы праверыць свае веды школьнай праграмы па 14 прадметах. Першы раз - з кастрычніка па снежань 2015 года, другі - са студзеня па люты, трэці - з сакавіка па красавік 2016 г. Канкрэтныя даты па розных прадметах, пункты тэставання па ўсёй краіне вызначаць самастойна пасля 5 кастрычніка.

Таксама з кастрычніка непасрэдна ў Рэспубліканскім інстытуце кантролю ведаў будзе арганізавана камп'ютарнае рэпетыцыйнае тэставанне.

- На камп'ютарным тэставанні прапануюцца заданні з той жа базы, што і на звычайным рэпетыцыйным. Розніца ў тым, што абітурыент працуе перад маніторам і ў канцы выпрабавання адразу пазнае свой вынік, - тлумачыць першы намеснік дырэктара РІКВ Наталля Вайцяховіч. - Таксама абітурыент можа адразу папрацаваць над сваімі памылкамі. Спачатку да няправільна выкананых заданняў даецца падказка. Калі і яна не дапамагае, можна паглядзець правільнае рашэнне.

У гэтым годзе ўпершыню ў канцы кожнага этапа ўсім удзельнікам рэпетыцыйнага тэставання на сайце Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў дадуць аналіз і рашэнне выкананага імі варыянту заданняў.

Кошт рэпетыцыйнага тэставання - 61 тысяча рублёў за кожны прадмет.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** ЕС не будзе пераглядаць санкцыі супраць Беларусі, як пацвердзіў каардынатар урада ФРГ Г. Эрлер, да прэзідэнцкіх выбараў, яны павінны быць чэснымі, празрыстымі.

**Гудагай.** Экс-кандыдата ў прэзідэнты 2010 года А. Міхалевіча, калі ён вяртаўся на радзіму, знялі з цягніка Вільня-Мінск і затрымалі на граніцы, але потым адпусцілі.

**Гомель.** Праблемнае ААТ "Гомсельмаш" выпусціла першую партыю новых камбайнаў КЗС-2-1218Р для ўборкі рысу, іх адправілі заказчыкам у Казахстан.

**Мінск.** А. Лукашэнка заявіў, што сёння – не да раскошы, у нас наперадзе, магчыма, яшчэ больш складаныя часы, звычайныя людзі ўсё могуць купіць за беларускія рублі.

**Камянец.** Суд пакараў непрацуючага 53-гадовага жыхара раёна 2 гадамі турмы за махлярства з дапамогамі на дзяцей, іх пасля смерці жонкі выхоўвала бабуля ва Украіне.

**Брэст.** Пасля матча SEHA-лігі супраць мясцовага БГК імя Мяшкова адразу 12 ігракоў харвацкага "Заграба" трапілі ў бальніцу з прыкметамі харчовага атраўлення.

**Гродна.** Каб болей прыцягнуць пакупнікоў-беларусаў, польскі цэнтр распрадаж "OutLet" вырашыў адкрыць новы спецыяльны аўтобусны маршрут "Беласток-Гродна".

**Мінск.** На канец года перанеслі адкрыццё першага ў Беларусі гандлёвага цэнтра масавых распрадаж "OutLet" з харчовым гіпермаркетам і паркінгам на 745 месц для аўтамабіляў.

**Столін.** Праз суткі па спрошчанай працэдуры беларускія пагранічнікі вярнулі Украіне 38 кароў, якіх не ўпільнавалі пастухі-украінцы, і рагулі перайшлі граніцу, прыйшлі сюды.

**Шчучын.** Пасля рэстаўрацыі ў абноўленым палацы знакамітага роду графаў Друцкіх-Любецкіх адкрыўся Цэнтр дзіцячай і юнацкай творчасці, запрацаваў і кніжны магазін.

**Жыткавічы.** Хітом інтэрнэту стаў відэаролік, як вясковы ансамбль бабулек "Крынічанка" праспяваў песню, што такога прэзідэнта, як А. Лукашэнка, няма нідзе болей у свеце.

**Асіповічы.** Да 10 год турмы пагражае былой работніцы Беларусбанка, якая падманным шляхам зняла з банкаўскага рахунку 92-гадовай пенсіянеркі з Ялізава 7,5 тысяч долараў.

**Мінск.** Польскі будаўнічы холдынг Uniber акрамя буйнога гандлёвага цэнтра ў Гродне ў сталіцы пабудуе буйнейшы ў Беларусі цэнтр тэніса з 13 крытымі кортамі і ФАКам.

**Жодзіна.** Ва ўзросце 12 гадоў мясцовы вельмі адораны хлопец Цімур Сушко стаў першакурснікам Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, ён яшчэ і плывец.

**Гродна.** Хакеісты гродзенскага "Нёмана" занялі апошняе месца ў групе І і не выйшлі ў групавы этап розыгрышу еўрапейскай Лігі чэмпіёнаў.

## Для пенсіянераў з кватэрамі ва ўласнасці дамы састарэлых могуць стаць платнымі

**Знаходжанне ў інтэрнатах для некаторых катэгорый пенсіянераў можа стаць платным. Такую ідэю, як паведамляе агенцтва «Мінск-Навіны», агучыла старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама Жанна Рамановіч.**

- Мы лічым, што грамадзяне, якія маюць ва ўласнасці жылое памяшканне, павінны знаходзіцца ў інтэрнаце толькі на платнай аснове. Адпаведныя прапановы перададзены ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, - распавяла Жанна Рамановіч.

На думку чыноўнікаў, такая мера стане стымулам для больш актыўнага заключэння адзінокімі людзьмі дагавораў пажыццёвага ўтрымання. Нагадаем, такая магчымасць на заканадаўчым узроўні была замацаваная ў 2011 годзе. Дагавор могуць заключаць тыя, хто дасягнуў 70 гадоў і не мае сваякоў, якія могуць прэтэндаваць на жыллё.

Па словах Жанны Рамановіч, цяпер любы грамадзянін, які дасягнуў пенсійнага ўзросту або які мае інваліднасць першай групы, можа быць звычайна ў дзяржаўную інтэрнатную ўстанову на поўнае забеспячэнне.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На абласным семінары-нарадзе глава вобласці М. Шарстнёў дапусціў магчымасць ліквідацыі 21 дабітай ушчэнт гаспадаркі з раздачай тэхнікі фермерам.

**Глыбокае.** Услед за збанкрутаваным кансервавым заводам "Купцовъ" будзе закрыты і Пліскі льнозавод, які не змог выйсці на рэнтабельную дзейнасць.

**Лепель.** За парушэнне пажарнай бяспекі штрафам 4,5 мільёна рублёў пакаралі намесніка камандзіра часці, калі пры правядзенні стрэльбаў ад выбуху пацярпела 9 га сосен.

**Орша.** Мясцовыя авіярамонтны завод і льнокамбінат наведаў дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы РФ і РБ Р. Рапота для абмеркавання пытанняў супрацоўніцтва з фірмамі Расіі.

**Докшыцы.** РУ "Докшыцырайгаз" рэарганізавалі на 2 часткі, газавая гаспадарка ўвайшла разам з Пастаўскім раёнам у філіял ВУ "Глыбокаегаз", торфазавод стаў самастойным.

**Наваполацк.** У мясцовай гімназіі №2 пасля ўспышкі ротавіруснай інфекцыі на занятк не прыйшло больш 70 вучняў малодшых класаў, 8 гадоў назад так перахварэў увесь горад.

**Лепель.** Пры правядзенні планавай праверкі аднаго з мясцовых прадпрыемстваў падатковая інспекцыя даналічыла ў бюджэт больш 1,1 мільярда рублёў і 251 мільён пені.

**Паставы.** Грамадскае аб'яднанне "Экадом" і жыхары вёскі Станчыкі падалі ў суд на раённы выканаўчы камітэт за выдачу дазвола на ўзвядзенне царквы на беразе ўнікальнага возера.

**Чашнікі.** На сваёй радзіме ў раённым цэнтры, дзе пахаваны бацькі, зноў пабываў лаўрэат Нобелеўскай прэміі, знакаміты вучоны Жарэс Алфёраў з жонкай, сынам і дачкой.

**Полацк.** На працягу трох дзён у горадзе праходзіў нацыянальны дзіцячы форум, прысвечаны беларускаму пісьменству з удзелам дэлегацый з 13 розных гарадоў Беларусі.

**Шаркаўшчына.** Мясцовая маладая сям'я Вольгі і Аляксандра Рамановічаў сталі пераможцамі абласнога этапа рэспубліканскага конкурса "Уладар сяла-2015".

**Віцебск.** Суд пакараў 85-гадовага старога 9 гадамі турмы за забойства тапаром свайго роднага 50-гадовага сына, калі той спаў, паміж сабой яны не ладзілі, часта сварыліся.

**Браслаў.** У лясным масіве на граніцы з Латвіяй зноў заблудзіліся 10 дарослых і 4 дзяцей нелегалаў з Афганістана, калі іх кінуў праваднік, іх знайшлі і перадалі латышам.

**Віцебск.** Два вядучыя бухгалтары і эканаміст распрацавалі злачынную схему і за 5 гадоў скралі ў мясцовага цэнтра псіхіятрыі і наркалогіі амаль 2 мільярда рублёў.

**Лепель.** Уступіў у сілу прыгавор мясцовай школьніцы, якая летась у лютым задушыла нованароджаную дзяўчынку, за кратамі мярзотніца правядзе 8 наступных гадоў жыцця.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Алёна Яско, "СБ"

# Насіце мабільны тэлефон у кішэні, асабліва ў лесе!

## Ваўчыца 6 гадзін пратрымала вяскоўца на дрэве.

Жыхар вёскі Вялікае Сяло Шаркоўшчынскага раёна пайшоў у лес за грыбамі, прыхапіўшы з сабой вядро і заплечнік (рукзак). Непадалёк ад суседняй вёскі Грыгараўшчына ён натыкнуўся на кодлу маладых ваўчанят. Калі паспрабаваў наблізіцца да іх, заўважыў у дваццаці кроках ад сябе мацёрую ваўчыцу.

– *Яна спачатку замерла, а потым выскаліла зубы, але не рыкала,* – успамінае свае прыгоды вясковец. – *Я адразу ж кінуў рэчы і імгненна ўзлез на найбліжэйшы дуб.*

Ваўчыца паводзіла сябе спакойна, але сыходзіць не збіралася. Прайшло каля шасці гадзін, за гэты час у грыбніка зацяклі рукі і ногі. Паведаміць родным пра тое, што ён патрапіў у бяду, ён не мог – мабільны застаўся ў заплечніку. Толькі познім вечарам яго вызвалілі аднавяскоўцы. Ваўкі спалохаліся крыкаў і святла ліхтароў і падаліся ў лясныя нетры.

– *Пасля таго, як злез, рукі і ногі балелі яшчэ некалькі сутак,* – уздыхае вясковец. – *Сёлета наогул больш за грыбамі не пайду, прынамсі, у адзіноце. А іншым раю заўсёды трымаць мабільнік у кішэні, а не ў кошыку ці заплечніку.*

# Калі ў лесе няма баравікоў, не перайтмайцеся! "Выкінуліся" апенькі!



■ Уладзімір Скрабатун

Натуральна, нашыя аўтары не толькі пішуць матэрыялы, але і вудзяць рыбу, збіраюць грыбы... Грыбныя дэсанты ў бок Галубіцкай пушчы прыносілі пэўны плён. Ну, не па 250 баравікоў на нос, як раней, а 30-40, і то, досыць вынікова.

Для разнастайнасці вырашылі наведацца на Пастаўшчыну, у раён Станелевічаў, хаця адтуль і прыходзілі скрушныя весткі – баравікоў няма. Паехалі. Так, няма! І мы засабіраліся дадому. Як раптам, за пару крокаў ад аўта, паўстае вялікі пень – увесь усыпаны восенькімі апенькамі! Малодзенькія! Мо, выпадковасць? Далей – болей! Не толькі на пнях, але і на зямлі! Мора! Мой кошык, у які лезе 2,5 вядры, амаль поўны... І быў бы поўны! Як уліў дождж з громам, як сцямнела... Прыйшлося зматвацца дадому.

У сярэдзіне лета наш Гідраметэацэнтр баіў, што грыбоў сёлета не будзе, маўляў – бясснежная зіма, а потым – спякотнае лета. Не ведаю, як з баравікамі, бо ў аўтара гэтых радкоў ёсць свой "гідраметэацэнтр", а менавіта – манжурскі арэх у суседа. Калі арэхі не сыпяцца – яшчэ можаш шукаць баравікі! Пасыпаліся – а ўжо пасыпаліся – шукай абабкі, падасінавікі, лісічкі, зялёнкі, апенькі... Пасля апошняй залевы на выходныя – і без баек Гідраметэацэнтра – зразумела, грыбы яшчэ будуць! Абы пацяплела! Можа і баравікі, насуперак майму "гідраметэацэнтру", ізноў ачуняюць ды палезуць?

# "Мінёр" глыбоцкага вакзала можа атрымаць да 5 гадоў пазбаўлення волі

**Па папярэдняй інфармацыі 21-гадовы хлопец, які паведаміў па тэлефоне, што вакзал у Глыбокім нібы замінаваны, быў п'яны.**

Як паведамляе "СБ", на месца здарэння па трывозе выехалі ўсе неабходныя ў такіх выпадках службы: аператыўна-следчая група, выратавальнікі і сапёры-піратэхнікі з вайсковай часткі ў Полацку. Выставілі ачапленне. Пяцярых працаўнікоў чыгуначнай станцыі эвакуявалі. Пасажыраў, на шчасце, на той момант не было (званок у міліцыю паступіў у 23.35). Перапынку ў руху цягнікоў таксама не дапусцілі.

Прэс-афіцэр УУС Віцебскага аблвыканкама Вольга Шкуратава распавядае падрабязнасці:

– *Спецыялісты абследавалі будынак вакзала. Выбухных прыладаў не выявілі. Па гарачых слядах атрымалася ўсталяваць асобу "жартаўніка". Ім стаўся 21-гадовы жыхар Глыбокага. Ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Як растлумачыў, званок з паведамленнем пра мініраванне проста вырашыў пацешыцца: хацеў паглядзець, наколькі аператыўна і прафесійна спрацуюць службы. Дзеянні спецыялістаў ацэньваў сам асабіста – назіраў за перапалохам з боку.*

Зараз да "экзаменатара" раённым аддзелам Следчага камітэта ўзбуджана крымінальная справа. Акрамя аплаты панесеных міліцыяй, выратавальнікамі і сапёрамі выдаткаў, яго чакае крымінальнае пакаранне. Санкцыі артыкула аб заведама ілжывым паведамленні пра небяспеку прадугледжваюць пакаранне ад штрафу да пяці гадоў пазбаўлення волі.

*Паводле "СБ".*

# Мастак і музыка Андрусь Такінданг напісаў абразы для Лучайскага касцёла





Андрусь Такінданг

Да 3 кастрычніка іх можна пабачыць у мінскім Цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3).

У Цэнтры адчынілася выстава Андруся Такінданга «Крыжовы шлях. Дошка, алоўак, акрыл». Серыя з 14 абразоў Крыжовага шляху з'явілася, як замова для касцёла ў Лучаі.

У сваіх абразах Андрусь Такінданг параўноўвае Крыжовы шлях Езуса Хрыста са штодзённым жыццём чалавека, яго клопатамі, праблемамі, цяжкасцямі, але і радасцю, з крыжовым шляхам кожнага чалавека.

Абразы Крыжовага шляху спалучаны з замалёўкамі з серыі «Магічная мапа», дзякуючы якім ствараецца ўражанне, што Хрыстус крочыць па вуліцах, мястэчках Беларусі і сустракаюць Яго беларускія мужчыны і жанчыны.

Сам Андрусь Такінданг пра сваю выставу кажа: «Пісаў Крыжовы шлях, быццам будаваў дом, касіў траву ці рабіў якую-кольвек простую працу. Літаральны, як батлейка, канкрэтны, як народны іканапіс, словам, – дошка, алоўак, акрыл».

Нагадаем нашым чытачам: Андрусь Такінданг, афрабеларус, мастак, тэлевядоўца на канале АНТ, музыка – грае ў гурце фолькмадэрновай музыкі «Рэха». Улюбёны госць усіх парафіяльных фэстаў, якія праводзяцца ў Лучаі.

# У Пастаўскім раёне «Жыгулі» сутыкнуліся з агароджай, загінуў пасажыр

24 верасня ў 19:35 недалёка ад вёскі Лявонавічы Пастаўскага раёна беспрацоўны жыхар вёскі Шкірэлі на «Жыгулях» выехаў за межы праезнай часткі і пратараніў металічную агароджу.

25-гадовы кіроўца не меў правоў на кіраванне аўтамабіля, бо іх ніколі не атрымліваў. У выніку ДТЗ пасажыр, — 27-гадовы беспрацоўны жыхар Пастаў — які ехаў з ім у легкавушцы, загінуў на месцы аварыі, паведамляе прэс-служба УДАІ.

# У Браслаўскім раёне затрымалі восем нелегалаў з В'етнама

**23 верасня полацкімі памежнікамі ў Браслаўскім раёне затрымана група грамадзян В'етнама.**

Восем в'етнамцаў былі затрыманы пры правядзенні пошукавых мерапрыемстваў у лясным масіве. Яны намерваліся незаконна патрапіць у Латвію, паведамляе прэс-служба ГПК.

Цяпер з парушальнікамі праводзіцца разбіральніцтва. Ім пагражае штраф у памеры да 100 базавых велічынь з дэпартацыяй з Беларусі.

# На Мёрскім мясакамбінаце ўсталявалі новы халадзільнік ёмістасцю 500 тон

**На мясакамбінаце ўсталяваны сучасны халадзільнік для астуджэння, замарозкі і захоўвання да 500 тон прадукцыі. Абсталяванне запусцілі 29 верасня.**

Кошт усіх будаўнічых работ і абсталявання еўрапейскай вытворчасці склаў 89 млрд. рублёў. Фінансаванне вялося з уласных сродкаў прадпрыемства, інавацыйнага фонду і пазыковых крэдытных рэсурсаў.

Новае халадзільнае абсталяванне дазволіць камбінату вырабляць не толькі звыклую, але і інавацыйную прадукцыю — астуджаныя паўфабрыкаты з працяглым тэрмінам рэалізацыі (да 25 сутак).

Мадэрнізацыя камбіната, якая вядзецца з 2011 года, працягваецца. Наступны на чарзе на абнаўленне — мясатлушчавы цэх.

*Паводле БелТА.*

# Фэст «Журавы і журавіны Мёрскага краю» ў чацвёрты раз сабраў гасцей

**Арганізатарамі свята традыцыйна выступаюць Мёрскі райвыканкам і грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны".**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Мерапрыемства прысвечана галоўным багаццям Мёршчыны: жураўлям і журавінам. Гэта сталася таму, што тут размешчанае самае вялікае верхавое балота Беларусі і адно з буйнейшых у Еўропе – Ельня.

Супрацоўнікі арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» адказваюць за арганізацыю і правядзенне экскурсій, падчас якіх можна паназіраць за птушкамі. І не толькі паназіраць, а даведацца шмат цікавага пра гэтых птушак.

Кіраўнік гэтай арганізацыі Аляксандр Вінчэўскі, а таксама валанцёры арганізацыі, на працягу дня распавядалі экскурсантам цікавыя факты пра журавоў, гаварылі пра адметнасць балота "Ельня", пра неабходнасць яго захавання.

Аказваецца, на самой Ельні жыве не так шмат журавоў, птушкі ж вялікія, звычайна ў жураўлінай пары двое птушанят, і для іх пракорму трэба вялікая па плошчы тэрыторыя. І гэту тэрыторыю птушкі пільна ахоўваюць ад журавоў-чужынцаў. А вось восенню птушкі пачынаюць збірацца ў вялікія чароды, на Ельні спыняюцца на адпачынак і харчаванне журавы з краін Скандынавіі, Балтыкі, Расіі. Колькасць журавоў на Ельні ўзрастае да некалькі тысячаў.

Вось і ў гэты раз на полі харчавалася каля шасцісот птушак. Дзякуючы якасці нашай ўборкі, корму на полі журавам хапала. Паназіраць за журавамі можна было ў бінокль або ў трубу з 30-кратным павелічэннем. Бліжэй падыходзіць да птушак было нельга, каб іх не спужаць. Трэба ж і іншым паглядзець!

Удзельнікі экскурсіі даведаліся, што журавы могуць дажываць да сарака гадоў, прычым жывуць яны пастаяннымі парамі. Гэта самая вялікая птушка Еўропы, яна дасягае да 120 см у вышыню. Зімуюць журавы ў Малой Азіі, Паўночнай Афрыцы, Турцыі. Прычым, у адрозненне ад буслоў, яны могуць перасякаць Чорнае мора ў прамым накірунку. Буслы ж над морам не ляцяць, яны яго абмінаюць.

Экскурсіі ад гарадскога парку да месца харчавання журавоў адбываліся кожную гадзіну, і жадаючых было шмат.

На зваротным шляху пасля назірання за журавамі ўдзельнікі экскурсіі змаглі наведаць музей балота Ельня. Яго супрацоўнікі распавядалі пра птушак, якія жывуць на Ельні, а таксама можна было пабачыць іх макеты, зробленыя з воўны. Робяць іх супрацоўнікі музея, прычым падабенства з арыгіналамі вельмі блізкае. На двары музея можна было зрабіць здымак у ролі жураўняці, і шмат хто гэтым карыстаўся, прычым не толькі дзеці.

Ну а ў гарадскім парку праходзіла святкаванне. Тут быў арганізаваны гандаль, былі дзіцячыя атракцыёны, праводзіліся розныя конкурсы. Таксама праходзіў конкурс панадворкаў, які ў апошнія гады стаў традыцыйным для такіх мерапрыемстваў.

Пра гэты конкурс хочацца асобна сказаць колькі словаў. Ён стаў ужо абавязковым атрыбутам кожнага афіцыйнага свята. І ўжо пачынае набіваць аскоміну, бо з году ў год паўтараецца тое самае. Такое ўражанне, што праводзіцца гэты конкурс не для людзей, а для высокага начальства. Бо ўсё робіцца для таго, каб світа на чале з кіраўніцтвам абыйшла гэтыя панадворкі, пакаштавала прысмакаў і ў выніку прызначыла пераможцаў. Ну а простыя наведвальнікі могуць за гэтым паназіраць, журналісты, праўда, яшчэ і пафоткаць. Але амаль няма ніякіх конкурсаў, у якіх маглі б паўдзельнічаць і госці свята. Я не хачу тут пакрыўдзіць мёрцаў, гэта. наогул, датычыцца такіх мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў нас у раённых гарадах. Таму варта ўжо праявіць, як зараз модна казаць, крэатыў і прыдумаць нешта новае.

Яшчэ ўражвала колькасць міліцыянтаў, якіх было аж за шмат для такога невялікага гарадка. Праўда, да гасцей яны ставіліся нармалёва. Што цікава, шмат хто з іх меў маёрскія пагоны. Аж падумалася, што і ў Мёрах усе маёры.

Наогул, свята было ня дрэнна арганізавана. Асабліва хацелася б адзначыць працу аддзела ідэалогіі, супрацоўнікі якога прыязна паставіліся да журналістаў, дапамагалі ім інфармацыяй, не падзяляючы іх пры гэтым на дзяржаўных і незалежных.

Присутнічалі на свяце і замежныя госці, сярод якіх ужо не першы раз прысутнічаў пастаянны прадстаўнік ПРААН у Рэспубліцы Беларусь Санака Самарасінх. У сваім слове ён адзначыў:

– Вашы зямля і рэгіён вельмі прыгожыя. Аднак, як увесь час заўважаю, Беларусь – самы ахоўваемы сакрэт у Еўропе. Пра гэты край еўрапейцы і жыхары іншых частак свету ведаюць не так шмат.

Таму правядзенне такіх мерапрыемстваў, па словах высокага госця, павінна ліквідаваць гэты недахоп.

Адзінае, што засмучала, беларускай мовы на ім амаль не гучала, хаця большасць жыхароў Мёршчыны размаўляе пакуль пабеларуску. Хочацца спадзявацца, што ў наступным годзе арганізатары звернуць на гэта ўвагу.

Ну, а тых, хто назіраў за журавамі да самага вечара, чакала цікавае відовішча. Тысячы журавоў з курлыканнем пралятали над іх галовамі на начлег у Ельню. Каб пабачыць гэта, варта зноў і зноў прыязджаць на Мёршчыну. Бо прыгожае ў нас побач, варта толькі азірнуцца вакол сябе і ахвяраваць адным днём у годзе, каб усё гэта пабачыць. І вы не пашкадуеце аб гэтым часе, які ні ў якім разе нельга лічыць згубленым!

Так што, прыязджайце ў Мёры ў наступным годзе!



На гэты раз на полі сабралася калі шасці соцень журавоў.



Журавінка і Журавель.




Цікава пабыць у ролі жураўнят.



Спазніліся на экскурсію? Будзе наступная!

# Аляксей Протас: Смецце парушальнік прыбраў, але ўжо было позна піць «Баржомі»



**Час няўмольна рухаецца наперад, скончыўся першы месяц восені, непрыкметна наступіць зіма, можна падвесці прамежкавыя вынікі года.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету за 9 месяцаў бягучага года выяўлена 192 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па дзевяці парушэннях распачатыя крымінальныя справы, вінаватыя прыцягнуты да суровай крымінальнай адказнасці. За прычыненую прыродзе шкоду парушальнікам прад'яўленыя велізарныя фінансавыя штрафы, больш за 400 мільёнаў рублёў, якія спагнаныя ў поўным аб'ёме.

Так, суд Пастаўскага раёна разгледзеў крымінальную справу ў дачыненні да двух жыхароў Пастаўскага раёна, Місуна Аляксандра Юр'евіча і Анкудовіча Вадзіма Аляксандравіча, якія 13 чэрвеня 2015 года на рацэ Палавіца Пастаўскага раёна ажыццяўлялі лоўлю рыбы забароненай прыладай рыбалоўства – брадніком, але былі затрыманыя, шкода, прычыненая прыродзе незаконнымі дзеяннямі парушальнікаў, склала 22 млн. 770 тысяч рублёў. Раённы суд уліччыў усе змякчальныя віну абставіны і прызначыў абодвум удзельнікам пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 60 базавых велічынь, або 10.800.000 рублёў для Анкудовіча В.А. і 70 базавых велічынь, або 12.600.000 рублёў для Місуна А.Ю. Вынік рыбалкі – выплачана больш за 20 мільёнаў рублёў кожным з парушальнікаў.

Суд Шаркаўшчынскага раёна разгледзеў крымінальную справу ў дачыненні да двух жыхароў гэтага раёна, Красоўскага Аляксея Леанідавіча і Басянка Міхаіла Аляксандравіча, якія 2 чэрвеня 2015 года ажыццяўлялі незаконную здабычу рыбы сеткамі на вадасховішчы Вардзік, але былі затрыманыя супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі. Улоў парушальнікаў склаў амаль 40 кг розных відаў рыбы, шкода, прычыненая прыродзе, склала 50 млн. 760 тысяч рублёў, або 282 базавыя велічыні.

Суд прызначыў Басянку М.А. пакаранне ў выглядзе 3 месяцаў арышту са штрафам у памеры 300 базавых велічынь, або 54 мільёны рублёў, Красоўскаму А.Л. прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 1 год з адтэрміноўкай выканання прысуду на 1 год і штрафу ў памеры 300 базавых велічынь, або 54 мільёны рублёў. Вынік браканьерскай рыбалкі: 158 мільёнаў рублёў неабходна выплаціць дзяржаве і плюс пазбаўленне волі.



Узнікае натуральнае пытанне: а ці трэба гуляць з законам у «рускую рулетку». За грошы, якія неабходна выплаціць дзяржаве, можна купіць 4 тоны адборнага карпа. Той, хто жадае выпрабаваць лёс, няхай прачытае і задумаецца.

Не сакрэт, што культура нашых грамадзян яшчэ далёкая ад нармальнага чалавечага разумення. Пасля адпачынку, рыбалкі, на месцы лоўлі заўсёды знойдзеш кінутае смецце, пустыя бутэлькі.

Так, на вадасховішчы Ломашы Глыбоцкага раёна інспектары зрабілі заўвагу жыхару г. Навапалацка, які лавіў рыбу на сажалцы аб неабходнасці прыбраць выкінутае на бераг вадаёма смецце, але рыбалоў, выкарыстоўваючы ненарматыўную лексіку і бандыцкі жаргон, маўляў, што Вы мне прад'явы кідаеце, адмовіўся выконваць законныя патрабаванні. Вынік працяглых перамоў – два адміністрацыйныя пратаколы, за выкінутае смецце штраф 10 базавых велічынь і за выкарыстанне забароненай колькасці кручкоў без належнага на тое дазволу, адсутнасць рыбалоўнага білета штраф 25 базавых велічынь. Смецце ў выніку ўсёроўна было прыбранае, але ўжо было позна піць «Баржомі».

Гэта толькі маленькая частка прыкладаў пакарання парушальнікаў, і за кожным з гэтых выпадкаў стаіць лёс чалавека, сям'і, але чалавек сам каваль свайго шчасця, хтосьці, напэўна, не вельмі добры каваль.

**Пра ўсе вядомыя факты ўчыненых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).**

*Здымкі з сайта газеты «Ганцавіцкі час» і Дзржінспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету*

# Як пазбегнуць побытавых электратраўмаў

**Кожнаму з нас бліжэй не тое, што адбываецца дзесьці там, далёка, а тое, што непасрэдна тычыцца нас саміх. Таму ў першую чаргу разгледзім праблемы побытавага электратраўматызму.**

■ **А.Н. Ішуцін,** *інспектар Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Да побытавага электратраўматызму адносяцца ўсе траўмы, звязаныя з токам, якія адбываюцца ў побыце, гэта значыць, у дамавых, кватэрных і камунальных сетках.

Побытавы электратраўматызм – балючае месца сучаснай цывілізацыі. Пастаянна расце колькасць бытавога электраабсталявання, якое знаходзіцца ў эксплуатацыі.Калі злічыць усе тэлевізары, халадзільнікі, электрабрытвы, электрагазавыя запальніцы, электракаміны, электрыфікаваныя цацкі і іншыя электрапрыборы, якія ёсць у кватэрах сучаснага шматкватэрнага дома, то можна ўбачыць, што па ліку і сумарнай устаноўленай магутнасці яны пераўзыходзяць электраабсталяванне завода ці фабрыкі сярэдняй велічыні.



Але калі на любое прадпрыемства распаўсюджваецца патрабаванні аб спецыялізаваным наглядзе за выкананнем правіл па ахове працы і электрабяспекі, прычым, нагляд гэты ажыццяўляюць супрацоўнікі энергаінспекцыі, тэхнічныя інспектары прафсаюзаў і іншыя спецыялісты, то эксплуатацыя бытавога электраабсталявання з'яўляецца справай выключна саміх кватэранаймальнікаў і камендантаў інтэрнатаў, гэта значыць асоб, якія не маюць спецыяльнай кваліфікацыйнай групы па электрабяспецы.

Таму неабходна ведаць некалькі агульных правіл, выкананне якіх можа прадухіліць магчымыя непрыемнасці пры эксплуатацыі электрычных прыбораў.

Частай прычынай электратраўматызму з'яўляецца парушэнне ізаляцыі электраправодкі ў даступных для дотыку месцах. Асабліва гэта характэрна для памяшканняў, дзе выканана адкрытая пракладка электраправодкі. Таму, пры выяўленні парушэння ізаляцыі, неабходна прыняць тэрміновыя меры для яе аднаўлення.

Пры ўзнікненні кароткіх замыканняў або перагрузак ў электрычных ланцугах павінны адключацца аўтаматычныя выключальнікі або «перагарацъ» плаўкія ўстаўкі засцерагальнікаў, устаноўленыя ва ўводных шчытах жылых дамоў ці кватэр. Для выключэння ўзгарання электраправодкі, токавыя ўстаўкі гэтых апаратаў павінны быць каліброванымі, гэта значыць, яны павінны спрацоўваць пры токах, якія перавышаюць устаноўленыя значэнні. **Выкарыстанне некаліброваных плаўкіх уставак (жучкоў) катэгарычна забараняецца.**

Пры эксплуатацыі ўнутрыдамавых электрычных сетак важна сачыць за спраўнасцю ўсталяваных элементаў электраправодкі (разетак, выключальнікаў і да т.п.), каб яны не сталі прычынай паражэння электрычным токам.

Сеткавыя шнуры бытавых прыбораў часта выходзяць са строю з-за надлому або абрыву токаправоднай жылы, прыводзяць да іскрэння, нагрэву і нават да ўзгарання провада. Таму неабходна сачыць за спраўнасцю ізаляцыі провада і вілак ўключэння сеткавых шнуроў.

Пры неабходнасці рамонту электрапрыбораў абавязкова папярэдняе адключэнне электрапрыбора ад электрычнай сеткі. Але самы верны выхад з сітуацыі, якая склалася, будзе, калі вы даручыце выканаць рамонт кваліфікаванаму спецыялісту.

**І самае галоўнае: забараняецца пакідаць электрапрыборы пад напружаннем без нагляду на доўгі час.**

Гэтыя правілы гарантуюць вам надзейнасць працы і бяспеку пры эксплуатацыі бытавых прыбораў.



